


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 2(684)**
**Люты 2023 г.**




## Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк)

## Камунікат

21 студзеня 2023 г. адбылося паседжаньне Ўправы БІНіМу, першае пасьля адыходу доўгагадовага старшыні Інстытуту Д-ра Вітаўта Кіпеля. На паседжаньні былі абмеркаваныя арганізацыйныя пытаньні й творчыя пляны.

Адзінагалосна выканаўчым старшынём БІНіМу абраны д-р Юрка Кіпель.

Быў ухвалены плян працы на 2023 год, абмеркаваны ідэі на 2024 год. Па-ранейшаму плянуецца выданьне альманаху "Запісы БІНіМ", кніг, прысьвечаных беларускай эміграцыі і яе культурнай спадчыне. Прынята рашэньне аб стварэньні інтэрнэт-сайту Інстытуту.

Выказаныя падзякі за падтрымку й спадзевы на будучую супрацу Беларускай Фундацыі Крачэўскага, Культурніцкай і Адукацыйнай Фундацыі Орса-Рамана, Згуртаваньню Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына".

Управа БІНіМу й сям'я Кіпеляў дзякуе ўсім, хто даслаў ахвяраваньні на Інстытут у памяць д-ра Вітаўта Кіпеля.

***Управа БІНіМу***

# Вывука Камінформу - бойка, якую прайграў Сталін

Сёлета спаўняецца 75 год малавядомай у нас староны эўрапэйскай гісторыі – пачатку закалоту паміж камуністычнымі ўладамі Савецкага Саюзу і Югаславіі ў 1948 годзе. Тады ўсяму сьвету было ўпершыню ясна паказана, што камуністычныя краіны могуць ваяваць між сабою, і тым самым, што нацыяналістычны пачатак аказваецца мацнейшы за прынцыпы клясавыя і партыйныя. Тады ж былі таксама спыненыя сталінскія амбіцыі па захопу рэшты Эўропы.

Парадаксальна, гэтая "першая прайграная бітва Сталіна" адбылася з другой найбольш дагматычнай і аўтарытарнай камуністычнай партыяй сярод усіх тагачасных партыяў цэлага сьвету. Напачатку "Народная Югаславія" цалкам плыла ў фарватары савецкай кампартыі – ВКП(б). Пры гэтым яна магла пахваліцца, што была адзінай краінай Усходняй Эўропы, якая вызвалілася ад нямецкай акупацыі, пераважна абапіраючыся на ўласныя ўзброеныя сілы і ахвярнасьць свайго народу. Камуністычная рэвалюцыя ў Югаславіі была спалучаная з нацыянальна-вызвольнай, са змаганьнем супраць варожай чужаземнай сілы. Кіраўніцтва Кампартыя Югаславіі, як і амаль усіх кампартыяў сьвету, моцна пацярпела ад сталінскіх рэпрэсіяў, і напачатку вайны кампартыя складала ўсяго каля 10 тысяч сяброў. Але, паставіўшы на першае месца барацьбу супраць замежных акупантаў – італьянскіх фашыстаў і нямецкіх нацыстаў, а таксама мадзяраў і баўгараў, падкрсэьліваючы братэрства і адзінства югаслаўскіх народаў – паўстаньне супраць акупантаў у ліпені 1941 году атрымала шырокую народную падтрымку. Пасьля амаль 4 год драматычнага змаганьня, нягледзячы на памылкі й лякальныя паразы, паўстаньне перамагло, у тым ліку з брытанскай і амэрыканскай дапамогай, а пазьней і з дапамогаю савецкай. І яно прывяло да ўлады камуністычны рэжым начале з Брозам Тытам, Ранкавічам-Маркам, Кардалем і Джыласам.

Сытуацыя ў Югаславіі падчас Другой сусьветнай вайны вельмі нагадвала сытуацыю ў Беларусі – за кантроль над абшарам змагаліся больш чым дзьве сілы, і баявыя дзеяньні ў значнай ступені нагадвалі грамадзянскую вайну. Таксама і Беларусь, і Югаславія выйшлі з Другой сусьветнай вайны з найбольш пацярпеўшымі ад вайсковых дзеяньняў грамадзтвамі, у якіх было страчана каля пятай часткі насельніцтва. Абедзьве краіны лічыліся "партызанскімі". Вайна характарызавалася, як і кожная грамадзянская вайна, найбольш лютымі жорсткасьцямі, у дадатак да абсалютнага браку нейкіх стрымліваючых чыньнікаў збоку асноўных бакоў канфлікту – немцаў і Саветаў. Дарэчы, Саветы – вызвольнікі Бялграду і паночна-ўсходняга кутка Сэрбіі, пазначыліся на "супэрбратняй" і гістарычна заўсёды прыязнай тэрыторыі значнымі гвалтамі й рабункамі. Толькі па афіцыйных дадзеных за некалькі месяцаў было зарэгістравана

*працяг на бачыне 2*

# Разьвітаньне зь Вітаўтам Кіпелем

У пятніцу, 9 сьнежня 2022 году, у Пахавальным Доме Малішэўскага ў Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзі, прайшло разьвітаньне з памерлым 3 сьнежня выдатным дзеячам беларускай грамады ў Амэрыцы, навукоўцам і публіцыстам сп. Вітаўтам Кіпелем (1927-2022). На наступны дзень у Царкве Сьв. Маці Божае Жыровіцкае ў Гайлэнд-Парку прайшло адпяваньне Вітаўта Кіпеля, якое правёў сьвятар БАПЦ а. Зінові. Труна затым была перавезеная на могілкі ў Іст-Брансўіку і, пасьля адправы пахавальнага абраду, перададзеная зямлі побач са спачылай у 2003 годзе жонкай Зорай Кіпель.

Затым сям'я і сябры, усе хто ведаў сп. Вітаўта Кіпеля, сабраліся на хаўтуры ў рэстаране "Кампасіна" ў Саўт-Рывэры. Са сваімі ўспамінамі й думкамі пра нябожчыка выступілі дзеці Алеся Кіпель і Юрка Кіпель, унук Алекс Кіпель, прыляцеўшы з Прагі рэдактар кнігаў Кіпеля сп. Сяргей Шупа, сп-ні Тацяна Дзямешчык, Ала Кузьміцкая, Ала Орса-Рамана, Валянціна Трыгубовіч, сп. Адам Акуліч і Нікалас Рамана. Усе выступоўцы падкрэсьлівалі энэргію і аптымізм Кітаўта Кіпеля, кампэтэнтнасьць і зацікаўленасьць ва ўсіх справах, за якія ён браўся, і ягоны моцны беларускі патрыятызм.



Памяць пра Вітаўта Кіпеля і плён ягонай дзейнасьці, кнігі й архівы, застануцца заўсёды з намі.

**Віталь ЗАЙКА**

## Вывука Камінформа

*працяг з бачыны 2*

згвалтаваньне чырвонармейцамі некалькіх соцень жанчынаў, з якіх затым больш за сотню было забіта, і ўчынена больш за тысячу рабункаў. Савецкія вызвольнікі спынялі жаўнераў і афіцэраў камуністычнага югаслаўскага войска, забіралі асабістую зброю, гадзіньнікі, каштоўныя рэчы. Адразу, як і ў Беларусі, за апрацоўку насельніцтва ўзяліся НКВД і СМЕРШ. Пазьней сотні завэрбаваных югаславаў сталіся апірышчам Савецкага Саюзу ў канфлікце з Тытам і Кампартыяй Югаславіі (КПЮ). Дзеля працяглага пэрыяду нелегальнай дзейнасьці й браку партыйных кангрэсаў цягам 20 год, Кампартыя Югаславіі "сталінізавалася", у тым ліку пераняла жорсткі цэнтралізм і капіяваньне мэтадаў працы ВКП(б).

Напачатку, у эўфорыі перамогі ў вайне і цалкам давяраючы Саветам, а і нават дапушчаючы, што Югаславія стане неўзабаве адной з рэспублікаў СССР, камуністы Югаславіі пераймалі досьвед, структуру і прынцыпы ВКП(б). Войска было фактычна аддадзенае на фармаваньне і кшталтаваньне савецкім вайсковым дарадцам, што ўводзілі ня толькі свае статуты, але нават сьпевы, вайсковыя каманды па-расейску і расейскі "пячатаны" страявы крок. Выпускнікі савецкіх вучэльняў і акадэміяў фармавалі югаслаўскую вайсковую дактрыну, якая нагадвала цяперашнюю дактрыну беларускую – "фарпост на сьцеражы заходніх рубяжоў". Некрытычна пераймаліся прынцыпы гаспадараньня, пачалася прымусовая калектывізацыя сельскай гаспадаркі.

Югаславы з энтузіязмам паставіліся да аднаўленьня зьліквідаванага ў 1943 годзе Камінтэрну ў выглядзе Камуністычнага Інфармацыйнага Бюро (ІБ, Інфармбюро камуністычных і рабочых партыяў, з кастрычніка 1947). Сталін пастанавіў, ухваляючы югаслаўскае кіраўніцтва, зрабіць штаб-кватэру ІБ у Бялградзе. Той пэрыяд у гісторыі Югаславіі называюць "часамі Камінформа" або "пэрыядам Інформбюро (ІБ)".

Правалы ў эканоміцы дзеля наўпростага стасаваньня савецкай мадэлі й калектывізацыі, сумесныя прадпрыемствы, дзе ўсе ільготы меў толькі савецкі бок, а таксама фанабэрыстае захаваньне савецкіх "сьпяцоў" пасеяла першыя зерняткі будучай варажнечы. Затым Сталін запатрабаваў поўнага падпарадкаваньня зьнешняй палітыкі, утварэньня фэдэрацыі з Баўгарыяй. Цікава, што па матэрыялах тагачасных перамоваў уважалася, што Савецкі Саюз пашырыцца на захад праз стварэньне фэдэрацыяў Беларуска(!)-польска-чэхаславацкай і Ўкраінска-румынска-мадзярскай. Баўгарска-югаслаўская фэдэрацыя мелася быць далучаная да СССР праз "фэдэраваньне" наўпрост з РСФСР. Югаславы былі непрыемна ўражаныя ігнараваньнем іхных апініяў і тонам Сталіна й ягонага атачэньня, што трактавала замежныя кампартыі як сваіх падначаленых. Між тым яны былі сьведамыя свайго адмысловага статусу як прадстаўнікоў партыі – пераможцы фашызму ў сваёй краіне, чаго нельга сказаць ні пра якую іншую кампартыю ва Ўсходняй Эўропе, і таксама стварэньня камуністычнай рэспублікі на месцы нядаўняй манархіі. Збоку Сталіна дадавалася раздражненьне самастойнай пазыцыяй КПЮ адносна грамадзянскай вайны ў Грэцыі і "задужа" блізкімі стасункамі з Альбаніяй. Югаславы, у сваю чаргу, былі незадаволеныя сумеснымі прадпрыемствамі з СССР і запаволеньнем паставак у рамках эканамічнай і вайсковай дапамогі.

Натыркнуўшыся на нязгоду, а пазьней і на супраціў югаслаўскага кіраўніцтва, Сталін спрабаваў раскалоць кіраўнічыя ворганы КПЮ, карыстаючы зь вялікага аўтарытэту ВКП(б). Пасьля быў ужыты эканамічны ціск, былі адкліка용ныя спэцыялісты, спыненая дапамога. Югаславія была выключаная з ІБ, і затым у адмысловай рэзалюцыі ІБ ўсіх югаславаў заклікалі "выступіць супраць страціўшай давер і легітымнасьць фашыстоўскай клікі Тыта". І гэта не былі пустыя словы – каля 200 тысяч югаславаў не вярнуліся з СССР ды іншых краінаў "народнай дэмакратыі" або выехалі за мяжу, у тым ліку вайскоўцы, што пераляталі на самалётах. У краіне, дзе ўплыў Расеі й Саветаў быў велізарным, існавала рэальная небясьпека масавай падтрымкі заклікаў ІБ і савецкага кіраўніцтва скінуць Тыта і ягонае атачэньне. Тут таксама напрошваецца паралель зь сёнешняй Беларусяй, дзе значны працэнт грамадства ня ў стане крытычна аналізаваць дзеяньні расейскага кіраўніцтва і адмоўны ўплыў з боку Расеі.

*заканчэньне на бачыне 4*

Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Ізыдар Плашчынскі (1908-1986),
## літаратуразнаўца і грамадзкі дзеяч

Літаратуразнаўца, перакладчык, публіцыст і грамадзкі дзеяч Ізыдар Плашчынскі нарадзіўся ў вёсцы Каралішчавічы Менскага павету ў 1908 годзе. Бацькі-сяляне мелі шасьцёра дзяцей, і хоць самыя былі непісьменныя, але імкнуліся даць сваім дзецям асьвету. Старэйшы брат Ізыдара, Язэп, атрымаў асьвету ў Менскім рэальным вучылішчы і пасьля на курсах беларусазнаўства і стаў потым прызнаным паэтам і літаратурным крытыкам Язэпам Пушчам.

Ізыдар атрымаў пачатковую і сярэднюю асьвету жывучы на вёсцы, дзе быў сьведкам жахаў калектывізацыі, якія пасьля апісаў у сваіх артыкулах. Затым ён паступіў у Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, у якім скончыў філялягічны факультэт.

Вялікім ударам для яго быў арышт брата Язэпа Пушчы ў сфальсыфікаванай справе "Саюзу Вызваленьня Беларусі". Язэп Пушча адседзеў 5 год у лягерох у Чэбаксарах і Шадрынску на Урале, а затым ён жыў на пасяленьні ў Мурамскім раёне ў Расеі. Ізыдар Плашчынскі моцна перажываў за лёс брата, і як літаратуразнаўца ён ведаў, які талент фактычна змарнавалі рэпрэсіі супраць брата і соцень іншых прадстаўнікоў беларускай культуры, імклівае разьвіцьцё якой было перапыненае сталінскімі рэпрэсіямі. Працуючы ў дзяржаўнай агенцыі навінаў БелТА, Ізыдар, нягледзячы на небясьпеку, ніколі не перарываў сувязь з братам.

Ён быў мабілізаваны на Фінскую вайну, і браў удзел у ёй, бачачы ўсю нялюдзкасьць савецкай сыстэмы і пагарду да чалавечага жыцьця.

З пачаткам савецка-нямецкай вайны Ізыдар Плашчынскі застаўся ў Менску і стаў працаваць у рэдакцыі "Беларускай (Менскай) газэты", дзе ў той час таксама працавалі Натальля Арсеньнева, Мікалай Шкялёнак, Уладзіслаў Казлоўскі, Антон Адамовіч, Лявон Савёнак. У газэце ён пісаў артыкулы на літаратурныя і гістарычныя тэмы.

Як заўзяты непрыяцель бальшавізму, пры набліжэньні фронту да Менску, падаўся на Захад, трапіў у Чэхаславаччыну і затым, пасьля сканчэньня вайны,



перабраўся ў Баварыю, дзе пэўны час хаваўся ў кляштары ад савецкіх рэпатрыяцыйных камісіяў. Падчас побыту ў Нямеччыне ён зьмяніў сваё імя на Язэп Гуткоўскі.

Трапіўшы ў лягер ДП (ды-пі, перамешчаных асобаў) у Гановэры, Ізыдар Плашчынскі навязаў кантакт зь мясцовай беларускай грамадой і таксама з іншымі асяродкамі беларускага жыцьця ў Нямеччыне. Ён пачаў супрацоўніцтва з газэтай "Бацькаўшчына", што пачала тады выходзіць у Мюнхэне, і браў удзел у выданьнях, што выходзілі ў мюнхэнскім Інстытуце вывучэньня СССР. Ізыдар Плашчынскі пісаў літаратуразнаўчыя артыкулы пад псэўдонімам "Алесь Беразьняк" і палітычныя, пераважна антыкамуністычныя артыкулы, пад псэўдонімам "Язэп Менскі". Ён друкаваўся таксама ў мастацкім эмігранцкім выданьні "Конадні".

У першай палове 1950-х гадоў Ізыдар Плашчынскі перабраўся ў Злучаныя Штаты Амэрыкі, дзе яму давялося працаваць фізычна наладчыкам абсталяваньня, меў здольнасьці сьлюсарскія й сталярскія. І. Плашчынскі таксама працаваў на Радыё Свабода, дзе рыхтаваў літаратуразнаўчыя тэксты і браў удзел у працы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНіМ) у Нью-Ёрку, дзе часта рабіў даклады па літаратуразнаўстве й гісторыі беларускай літаратуры.

Па ўспамінах сп. Вітаўта Кіпеля, Ізыдар Плашчынскі меў добрыя адносіны з Антонам Адамовічам, але, ведаючы шмат сяброў, што зьніклі й не вярнуліся ў часы сталіншчыны, ён зь вялікай насьцярогай ставіўся да тых, хто ацалеў і здолеў вярнуўся пасьля рэпрэсіяў. "Наагул, ягонае слова было вастрэйшае, рэтарычнае, і Адамовіч яго крыху пабойваўся".

Ізыдар Плашчынскі таксама шмат чытаў і меў павагу ад калегаў дзеля сваіх шырокіх і глыбокіх ведаў зь беларускай літаратуры, зь якой найбольш дасканала ведаў пэрыяд нацыянальнага адраджэньня 1920-х гадоў. Таксама Плашчынскі больш шырока і ўважліва сачыў за літаратурным рухам у іншых славянскіх народаў, ва ўкраінцаў, палякаў, чэхаў.

Ізыдар Плашчынскі ўсё жыцьцё зьбіраў бібліяграфію і творы свайго брата Язэпа Пушчы, рыхтаваў да друку зборнік ягоных твораў. Зламанае жыцьцё брата заставалася ўвесь час для І. Плашчынскага незагойнай ранай. Ён браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці, чытаў лекцыі, быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) і паказаў сябе адданым патрыётам.

Плашчынскі належаў да групы пісьменьнікаў, што імкнуліся стварыць свой рух, але ня здолелі належна разгарнуць яго. Да той групы належалі, акрамя Плашчынскага, Сяргей Хмара, Лявон Савёнак, Мікола Целеш, Янка Ліманоўскі, Мікола Панькоў. Пад канец жыцьця, па сьведчаньні сяброўкі Лідзіі Дуржэнкавай, Ізыдар Плашчынскі, чалавек бескампрамісны й упарты, пасварыўся з шмат з кім зь сяброў. На яго вялікае ўражаньне зрабіла сьмерць брата Язэпа Пушчы, зь якім ён заўсёды спадзяваўся сустрэцца і супрацоўнічаць, але гэтай мары ніколі не было наканавана збыцца.

Памёр Ізыдар Плашчынскі ў 1986 годзе ў Нью-Ёрку. Частковая бібліяграфія артыкулаў Ізыдара Плашчынскага апублікаваная Лявонам Юрэвічам у альманаху "Запісы".

**Віталь ЗАЙКА**

# Вывука Камінформа

*заканчэньне з бачыны 2*

Калі спробы зьліквідаваць рэжым Тыта сіламі пятай калёны Саветаў у Югаславіі не далі выніку, Сталін і савецкае кіраўніцтва сталі ўсур’ёз разглядаць вынішчэньне югаслаўскай “ерасі” праз наўпроставую вайсковую інтэрвэнцыю. На межах Баўгарыі й Румыніі з Югаславіяй пачалася канцэнтрацыя савецкіх вайсковых сілаў, і быў створаны адмысловы танкавы корпус для патэнцыйных вайсковых дзеяньняў. Да ўдзелу ў інтэрвэнцыі былі прыцягнутыя вайсковыя адзінкі сатэлітаў СССР, як пазьней, праз 20 год у Чэхаславаччыне. У адказ югаславы стварылі штаб партызанскага супрацiву і сетку партызанскіх структураў, па ўзоры і з досьведу Другой сусьветнай вайны.

Паралельна набірала моц савецкая прапагандовая кампанія “барацьбы за мір”, якая мусіла заглушыць грукат танкавых матораў па-над Дунаем. Намеры Саветаў пачаць інтэрвэнцыю пацьвердзіў пазьней, пасьля ўзнаўленьня адносінаў, і маршал Жукаў падчас свайго візыту ў Югаславію, і шэраг іншых крыніцаў. Югаславы мусілі зьвярнуцца па дапамогу да брытанцаў і амэрыканцаў, нядаўніх ворагаў, якія ўсё ж перад тым, у часы вайны, былі альянтамі, вайсковымі калегамі. Маючы засьцярогі ў адносінах да камуністаў Югаславіі, хоць часам не зусім разумеючы сытуацыю, заходнія краіны, тым ня менш, пагадзіліся дапамагчы. Такі паварот, а таксама пачатак вайны ў Карэі й перанос стратэгічнай вагі на Далёкі Ўсход адклалі, а пасьля спынілі пляны Сталіна на прымусовае вяртаньне Югаславіі ў становішча савецкага паслугача.

У Саветах поўным ходам ішлі арышты ўсіх, хто меў нейкае дачыненьне да Югаславіі, хаця б праз кантакты з югаслаўскімі камуністамі або ў выглядзе югаслаўскіх ўзнагародаў за ўдзел у партызанскім руху на Балканах. Друк і радыё поўніліся зьвесткамі пра “подлых бандытаў – тытоўскіх наймітаў”. Мастакі-карыкатурысты набілі руку на маляваньні Тыта ў выглядзе тоўстага сабачкі, што ліжа боты Дзядзьку Сэму.

Югаславы адказалі на пагрозу “гегеманістаў й імпэрыялістаў” з усходу ня толькі аднаўленьнем партызанскіх плянаў. Была згорнутая калектывізацыя, зьнесеныя найбольш адыёзныя праявы таталітарызму ў эканоміцы. Управа




Дзяржаўнай Бясьпекі (УДБ), аналяг савецкага НКВД-МГБ, навастрыўшы зубы на вылоўліваньні калябарантаў – усташоў і чэтнікаў, узялася за прыхільнікаў Сталіна. За краты траплялі ня толькі заўзятыя сталіністы, але і проста прыхільнікі расейскай культуры, а то і цалкам выпадковыя людзі, што некаму не спадабаліся. Для ўтрыманьня вязьняў было створана некалькі лягераў, зь іх самы вядомы быў Голы Отак – выспа ў Адрыятычным моры, дзе вязьні працавалі на каменаломнях, пакутуючы ад браку вады, сьпёкі ўлетку і холаду ўзімку. Празь лягер, такую сабе зьменшаную копію Гулагу, прайшло каля 30 тыс. чалавек, каля чвэрці зь іх загінулі. Такім чынам, абедзьве камуністычныя дзяржавы нагналі моцнага страху на сваіх падданых.

Чаму нам, беларусам, варта ведаць пра тое, што адбылося 75 год таму? Бо гэта частка, хай сабе невялічкая, таксама і нашай гісторыі, і падзеі вакол Югаславіі закранулі жыцьцё не аднаго беларуса. Гэта такасама паказвае, што ніякая дэмагогія пра “братэрства” і “адзін народ” не абароніць ад вайны і сьмерці – як мы сёньня ясна бачым гэта ва Ўкраіне. Гэта паказвае, што так як і Ўкраіна цяпер, Югаславія тады прыняла выклік непараўнальна большага суперніка, і рыхтавалася да працяглага змаганьня. Таксама гэта паказвае нам, што нацыянальныя пачуцьці куды мацнейшыя за тэорыі пра клясавую барацьбу, і можна дадаць – за тэорыі пра гендар, “сацыяльную справядлівасьць” і “белыя прывілеі”. Свабоднае і незагамаванае разьвіцьцё народу мажлівае не праз фэдэрацыі й “саюзныя дзяржавы”, але праз уласную нацыянальную дзяржаву, дэмакратычнае прадстўніцтва і рынкавую эканоміку, з разьвіцьцём нацыянальнай культуры і захаваньнем нацыянальных традыцыяў.

**Віталь ЗАЙКА**

Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/ 134811029970802/***

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” *Viktar Yedzinovich.***

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**Сп-ва Біліда . . . . . . . . . . . . . . .30**
**В. Едзіновіч . . . . . . . . . . . . . . .30**
**А. Занковіч . . . . . . . . . . . . . . . .30**
**А. Курушка . . . . . . . . . . . . . . . .30**
**А. Пранцэвіч . . . . . . . . . . . . . .30**
**А. Сярко . . . . . . . . . . . . . . . . . .30**
**В. Трыгубовіч . . . . . . . . . . . . .30**
**В. Якімовіч . . . . . . . . . . . . . . . .30**

**Усім шчыры дзякуй!**